# ПАГОНЯ

Чацвер
27 ліпеня 2000 г.
№ 27 (474)
Кошт 70 рублёў

## У гонар Дэкларацыі аб суверэнітэце

**Гарадзенскі гарвыканкам даў дазвол грамадзянам Алесю Лобану і Сяргею Антусевічу на правядзенне 27 ліпеня двух палутарагадзінных пікетаў з нагоды прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.**

Прадугледжваецца, што ў кожнай акцыі прымуць удзел да 20 чалавек. Пікеты пройдуць у найбольш людных месцах Гродна. Улады задаволілі таксама заяву кіраўнікоў дэмакратычных партыйных і грамадскіх арганізацыяў, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва», на арэнду Палаца культуры «Юнацтва» для арганізацыі ўрачыстага сходу. У праграме сходу прадугледжаны выступленні дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, лідараў рэгіянальных няўрадавых арганізацыяў, ветэранаў дэмакратычнага руху рэгіёна і канцэрт.

Чакаецца, што ўдзел у сходзе прымуць 450 чалавек.

Антон Лабовіч

## Памежны пераход «Бераставіца - Баброўнікі» адкрыецца сёння. Магчыма...

Адкрыццё памежпераходу «Бераставіца - Баброўнікі» для пропуску легкавых аўтамабіляў і аўтобусаў перанесена на сёння - 27 ліпеня.

Адкрыць пераход для праезду легкавога аўтатранспарту планавалася 20 ліпеня. Гэта звязана з рэканструкцыяй іншага памежпераходу - «Брузгі - Кузніца», які з 1 жніўня закрыецца на тры з паловай месяцы. Меркавалася, што з 20 ліпеня па 1 жніўня праезд для транспартных сродкаў усіх відаў будуць адкрыты праз абодва гэтыя памежпераходы. Аднак беларуская частка пераходу «Бераставіца - Баброўнікі» аказалася непадрыхтаванай для навоўвядзення.

Зараз там ідзе ўкладка асфальту, вядуцца іншыя дарожныя работы, якія павінны быць завершаныя да 27 ліпеня. З гэтага дня і плануецца арганізаваць пропуск праз пераход транспартных сродкаў усіх відаў.

## Нёманская вада - разносчык заразы

**Спецыялісты Гарадзенскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі перасцерагаюць насельніцтва ад купання ў Нёмане, вадаёмах горада і яго наваколля.**

Падчас даследаванняў вады медыкі выявілі перавышэнне дапушчальнай нормы ўтрымання бактэрый кішэчнай палачкі ў 5 тысяч разоў на 1 кубічны міліметр. Паводле заключэння медыкаў, пранікненне такой вады ў арганізм чалавека пагражае атрыманнем цэлага букету захворванняў страўнікава-кішэчнага тракту. З сярэдзіны ліпеня 1999 года купанне ў Нёмане было наогул забаронена. Сёлета медыкі спадзяваліся на паляпшэнне стану вады, аднак гэтага не адбылося.

Пакуль забароны на купанне няма - з-за даволі халоднага надвор'я. Аднак з пацяпленнем афіцыйная забарона на купанне будзе ўстаноўлена.

Ася Куніцкая

## Падарунак акадэміка

**Акадэмік Радзім Гарэцкі падараваў Гудзевіцкаму літаратурна-краязнаўчаму музею калекцыю карысных выкапняў Беларусі.**

Яна налічвае болей як дзве сотні экспанатаў, якія сведчаць пра багацце нетраў нашай краіны. Зараз у загадчыка музея Алеся Міхайлавіча Белакоза з'явіліся прыемныя турботы па стварэнню адпаведнай экспазіцыі.

Язэп Палубятка




**27, 28 ліпеня** - воблачна з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўночна-заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра **27 ліпеня** - уначы +11...+16, удзень +18...+23; **28 ліпеня** - уначы +10...+14, удзень +15...+20.

# 27 ліпеня – 10 год аднаўлення Незалежнасці Беларусі



## Са святам Вас, дарагія суайчыннікі!

Гарадзенская рада БНФ «Адраджэньне»

# Паважаныя гарадзенцы!

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Беларусі абвясціў Незалежнасць краіны, пацвердзіў лёсавызначальны Акт ад 25 сакавіка 1918 года. Незалежнасць ніколі не давалася беларусам дарма. Тысячы патрыётаў Бацькаўшчыны паклалі свае жыцці на ахвярнік свабоды. Тым даражэй набытак. Гісторыя нагадвае пра шматлікія падзеі, якія папярэднічалі абвяшчэнню незалежнасці Беларусі. Мінулае захоўвае сотні імёнаў барацьбітоў. Гэта гонар і слава краіны.

Але Беларусі ў чарговы раз пагражае страта суверэнітэту. І гэтая пагроза рэальна зыходзіць ад цяперашняга пануючага рэжыму, які толькі ў здачы краіны расейскім алігархам бачыць магчымасць застацца пры ўладзе і пазбегнуць адказнасці за сацыяльна-эканамічны і палітычны развал беларускай дзяржавы і палітычную нестабільнасць.

Незалежнасць патрэбна Беларусі найперш, каб па-гаспадарску ўладкаваць жыццё кожнага грамадзяніна, даць магчымасць мець працу, прыстойны заробак, будучыню для моладзі. Гэта рэальна, калі кансалідаваць нацыю мець узаемавыгадныя адносіны з краінамі Усходу і Захаду, быць добрымі суседзямі і надзейнымі партнёрамі.

Каб стварыць квітнеючую дэмакратычную дзяржаву, патрэбна адстаяць незалежнасць, спыніць памкненні ўладаў да інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі.

Са святам Незалежнасці!

Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва»

# «Сьвяткаваць ня буду - галоўны не распарадзіўся»

**Сёньня спаўняецца 10 год з моманту прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Як будуць адзначаць Дзень Незалежнасці гарадзенцы?**

**Алена, супрацоўніца Цэнтра стандартызацыі і мэтралёгіі:**

- Ой, мне трэба параіцца з усімі! Мы яшчэ не размаўлялі пра гэта - шмат хто пра гэта нават ня ведае. Але абавязкова абмяркуем, «правядзем прафілактыку» (сьмяецца).

**Віктар Кудравец, намеснік дырэктара па эканоміцы Гроднацепласеткаў, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня:**

- Гэта звычайны працоўны дзень, але ў душы я заўсёды буду памятаць, за што галасаваў. Я ганаруся тым, што прымаў удзел у прыняцці гэтай Дэкларацыі. Тады апошнюю паправку Пазьняка прынялі аднагалосна. Калі ведаеце, ён у жыцці такі змрочны чалавек, а тут твар ажно прасіяў. Лічу, што гісторыя расставіць усё на свае месцы...

**Юра Тарасэвіч, сьведомы беларус:**

- Увогуле Дзень Незалежнасці я сьвяткую 25 сакавіка. А 27 ліпеня - нейкае гэта сьвята несапраўднае, ці што. Камунякі зрабілі ласку даць. А можа загад быў, можа каманда, каб зьбіць накал Руху. Цяжка зараз казаць. Але я нічога супраць гэтага сьвята ня маю - на канцэрт прыйду.

**Юзэфа Канцэвіч, санітарка Станцыі пераліваньня крыві:**

- Не, ня буду адзначаць. Ня ведаю - наш галоўны не распарадзіўся. Сьвяточны ж дзень не даюць? Мы вось 3 ліпеня добра адзначылі, на прыроду езьдзілі. Тады ж выхадны быў, а зараз - да працы.

**Леанід Лучына, дырэктар камбіната будаўнічых матэрыялаў:**

- Я ня знаю такога сьвята...

Юлія Дарашкевіч

## Рамантыкі з Аблсельхарча гавораць, што ўсё будзе О`К!

**Сёлета на Гарадзеншчыне мяркуюць атрымаць не менш 30 цэнтнераў з гектара зерневых і зернебабовых, а валавы збор давесці да 950 тысяч тон. Такі аптымістычны прагноз выказаў на прэс-канферэнцыі 21 ліпеня старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Гарадзенскага аблвыканкама Мечыслаў Касцюк.**

Разам з тым ён выказаў занепакоенасць катастрафічнай нястачай паліўна-змазачных матэрыялаў. Калгасы і саўгасы вобласці вінны нафтабазам 815 мільёнаў рублёў. Крэдытарская запазычанасць аграпрадпрыемстваў дасягнула 30 мільярдаў, ці па сто мільёнаў рублёў на кожную гаспадарку. У той жа час дзяржава не спяшаецца разлічыцца за атрыманую сельскагаспадарчую прадукцыю - перш за ўсё гэта тычыцца малако- і мясаперапрацоўчых камбінатаў Менска. Акрамя таго, нягледзячы на сёлетняе папаўненне камбайнавага парку больш як на сто машынаў, нагрузка на кожны камбайн складзе 117 гектараў замест 80 па норме. Доўг па выплаце зарплаты працаўнікам вёскі складае 1 мільярд 705 мільёнаў рублёў: 8 калгасаў не атрымалі заробак за люты, 43 - за сакавік і 215 - за травень.

У Гарадзенскай вобласці ёсць папярэдняя дамоўленасць з Краснадарскім краем Расейскай Федэрацыі аб закупцы там больш як 200 тысяч тон харчовага і фуражнага збожжа. У сваю чаргу механізатары Гарадзеншчыны мяркуюць аказаць расейскім партнёрам дапамогу ва ўборцы хлеба. Дзяржава запланавала закупіць у Гарадзенскай вобласці 260 тысяч тон збожжа.

Антон Лабовіч

Працяг тэмы на стар. 4

## Амінакіслоты са Скідаля

**У Скідалі завяршаецца будаўніцтва Гарадзенскага завода медыцынскіх прэпаратаў. Яго плануецца ўвесці ў строй сёлета ў верасні.**

Прадпрыемства будзе выпускаць гатовыя лекавыя формы на аснове высокаачышчаных амінакіслотаў. Тэрміны здачы ў эксплуатацыю гэтага завода неаднаразова адкладаліся - першую прадукцыю ён павінен быў даць яшчэ ў лістападзе мінулага года. Асноўная прычына затрымкі - недастатковае фінансаванне будаўніцтва аб'екта, якое вялося са сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

## Мядзведжая паслуга сваяка абітурыенту

**18 ліпеня Ленінскі РАУС Гродна ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да студэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (БДУ), які спрабаваў здаць уступныя экзамены ў Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт за свайго сваяка.**

Студэнта БДУ злавілі на падмане, калі ён, уклеіўшы ў экзаменацыйны ліст сваяка сваю фатаграфію, прад'явіў пашпарт на сваё імя. Супраць махляра ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 192, частка 3, Крымінальнага кодэкса (выкарыстанне заведама падложнага дакумента).

Яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да аднаго года, папраўчых працаў на той жа тэрмін або штрафу.

Ася Куніцкая

 



# Што стаіць за «неверагоднымі прыгодамі» міліцыянта Батурына?

**Знікненне журналіста Завадскага і неверагодная гісторыя міліцыянта Батурына выклікае (адразу агаваруся, асабіста ў мяне) адчуванне бездапаможнасці розуму. Немагчыма ўсвядоміць тое, што адбываецца на абшарах нашага некалі заснулага краю.**

Каму спатрэбіўся Дзмітрый Завадскі? Чачэнскім маджахедам? Магчыма, але чачэнцы ніяк не выяўляюць сваіх прэтэнзіяў, якія яны маглі б прад'явіць расейскаму боку, калі б мелі ў руках апарата ОРТ. Беларускай апазіцыі? Тут патрэбна жаданне самога Завадскага, бо немагчыма паверыць, каб апазіцыянеры скралі яго насуперак волі. Дзіма ніколі не быў заўважаны ў апантанасці палітычнымі амбіцыямі, яму гэта ўсё глыбока непатрэбна. Паўлу Шарамету? Паводле словаў палкоўніка Замяталіна, Шарамет арганізаваў правакацыю, каб патрапіць у беларускі парламент пасля выбараў, маючых адбыцца гэтай восенню. Аднак, па ўсім відаць, што Паўла сёння больш хвалюе праблема «нашых войскаў у Чачні», чым перспектывы развіцця беларускага парламентарызму і ўдасканалення прадстаўнічай дэмакратыі на радзімай старонцы. Да таго ж, ён мае «там» такія заробкі, што развагі пра беларускае дэпутатства, напэўна, выклікаюць у яго шчыры смех.

Тэлебачанне ОРТ са значэннем намякае на тое, што Завадскі раней быў «асабістым аператарам А.Лукашэнкі». Дык што, разабрацца з тым, ці назапасіў аператар на свайго былога патрона «компру», ці не, раней магчымасці не было (пакуль Дзіма сядзеў на нарах за «пераход мяжы»)? Ды якое значэнне мае тая «компра», нават, калі б яна і была? Пакажуць п'янага шэфа? З Ельцыным яшчэ не такое адбывалася, і нічога. Не здымаў жа аператар «тайныя вячэры» адкрытай ці патаемнай камерай.

З Юрыем Батурыным увогуле «кіно». Найбольш экстравагантную версію выказаў вядомы Зімоўскі. Ён доўга распавядаў пра таямнічыя спецслужбы і іх памагатых з ліку апазіцыянераў. Хаця шаноўны аналітык сваю версію наўпрост не сфармуляваў, але можна зразумець, што Батурын прыехаў з Варшавы ў Менск дзеля таго, каб прыйсці ў амерыканскую амбасаду ды заявіць, што беларускія спецслужбы не маюць да гэтай паездкі ніякага дачынення. Нешта маўчаць палякі. Можа, Батурын і не выязджаў ні ў якую Польшчу? Бо, калі яго сапраўды нехта скраў на Варшаўскім вакзале, то можна зрабіць толькі адну выснову - у арганізатараў гэтай аперацыі відавочна «з'ехаў дах». Што ім нейкі збеглы міліцыянт? Нават, калі б Батурын заявіў, што адпачываў у адным бардэлі з астатнімі зніклымі палітыкамі, то хто б паверыў у гэтую лухту? Эфектыўней распаўсюджваць чуткі пра тое, што іх бачылі ў белых штанах на пляжах Рыа-дэ-Жанэйра ў кампаніі з багатымі капіталістамі -незалежна ад таго, хто іх скраў насамрэч.

Прыгадваецца, што спадарыня Віннікава сустрэла ў Лондане менскага журналіста Юрыя Свірку пытаннем, ці не кілер ён. Гэтае пытанне выдае норавы беларускіх вярхоў лепш за ўсе сентэнцыі «чэсных» і «нячэсных» журналістаў.

**Сяргей Самасей**

З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:

# 20 дзён



Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы.

Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўчых органаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыкласьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.

# Жыццё ў пазыку

**Дзяржава, даведзеная да галечы за шэсць гадоў бясслаўнага праўлення, у сваёй дэградацыі заходзіць у тупік. Гэта ўжо відавочна. Гэта разумеюць як аптымісты, так і песімісты. Не бачыць гэтага толькі Аляксандр Рыгоравіч. Крамлёўскія міражы затуманьваюць позірк, клічуць і вабяць неабмежаванай уладай, якую даваў бы «ядзерны чамаданчык» і цвёрдая рука на «чырвонай кнопке».І гэта ўсё было так блізка і так рэальна, што дух захватывала. Ды дзе там! Усё - у мінулым, у марах і летуценнях.**

А за браніраваным шклом «Мэрсэдэса» віднеюцца не крамлёўскія муры, а запусценне, вёскі, якія паміраюць, прадпрыемствы ў агоніі, катастрафічнае абнішчэнне народа і, як вынік, - непрадказальная, а таму, страшэнная будучыня.

У сваіх амбіцыёзных планах Беларусь, напэўна, ніколі не хвалявала Аляксандра Рыгоравіча, не хвалюе яна яго і зараз. Можа быць, такі лёс маюць усе дыктатары: сумніўнае паходжанне, праблемы ў сямейным жыцці, неадэкватныя паводзіны, чалавеканенавісніцтва... Людзі для іх - гэта шрубкі, матэрыял, спосаб і сродак для здавальнення ўласных амбіцыяў. І смерць ва ўсіх без выключэння аднолькавая -бясслаўе і праклён нашчадкаў. Але гэта будзе потым.

А пакуль асляплёны ўладай мозг не ўспрымае разумны сэнс існавання, працягвае настойліва сцвярджаць: «Яшчэ нямнога, яшчэ крыху...». Але цуду зноў няма. Эканамічныя законы, сфармуляваныя 200 гадоў таму, былі правераныя жыццём, і нікому яшчэ не давялося абвергнуць ці падмануць само жыццё. Не атрымаецца гэта і ў «вялікага» дзеяча ад палітэканомікі Аляксандра Рыгоравіча. Але ўсё роўна трэба штосьці рабіць, прадпрымаць і, галоўнае, - дзе ўзяць грошы для таго, каб нарэшце ашчаслівіць народ. І нараджаецца геніяльная ідэя: грошы для народа ўзяць у гэтага ж народа. Якім чынам? Варыянтаў вельмі многа, напрыклад, за кошт павышэння цэнаў, перарэгістрацыі арганізацыяў, прыватных структураў, абавязковага страхавання транспартных сродкаў ды іншай маёмасці, павышэння штрафаў, розных дабрачынных ахвяраванняў на тыя ці іншыя камунальныя справы і праекты... Аднак гэтага, як заўсёды, мала.

Таму, бачачы гаротнае становішча ва ўсіх сферах Рэспублікі Беларусь, у першую чаргу, у эканоміцы, прапаную для часовага аздараўлення асноўнай сферы жыццядзейнасці наступны план папаўнення валютных рэзерваў краіны. Кожны «вертыкальшчык», пачынаючы прэзідэнтам і заканчваючы старшынём выканкама сельскага савету, павінен у абавязковым парадку купіць за 100 даляраў акцыю, аблігацыю і ім падобныя, гэта значыць падараваць дзяржаве гэтыя грошы, тым самым заплаціць сабе за сваё бесталковае кіраўніцтва краінай, вобласцю, раёнам, вёскай. Колькі ж грошай атрымае казна ў гэтым выпадку? За адным махам і даведаемся пра колькасць «нахлебнікаў», што сядзяць на шыі ў народа і атрымліваюць грошы, але зарабляць іх самі не жадаюць ды іншым не даюць?

Калі да той групоўкі яшчэ дадаць розных «членаў вертыкальных адміністрацыяў», то за вырučаныя грошы можна будзе ў Чэхіі ці Літве купіць зерне, мяса; у Расеі - энергарэсурсы; у Турцыі - шырспажыў і, як мінімум, бязбедна пражыць надыходзячую, вельмі няпростую па ўсіх паказчыках, зіму. А там, глядзіш, што-небудзь зменіцца, і ў Расеі, можа, увядуць для Аляксандра Рыгоравіча пост віцэ-прэзідэнта. Можа, расіяне - гэта новая супольнасць людзей, што пасля чарговага перадзелу ўласнасці запатрабуе галоўнага інтэгратара на царстваванне. Хто ведае?.. У наш супярэчлівы час дзень пражыў, - і дзякуй Богу.

Гэтыя жахлівыя эксперыменты над сваім народам будуць працягвацца і далей. І вось тут узнікае яшчэ адно крамольнае пытанне: «Ці здаровы Аляксандр Рыгоравіч?» Вядома, што прафесар Бехцерэў у 20-х гадах паставіў такі дыягназ Сталіну: паранойя. Да словаў доктара не прыслухаліся: плёны дыктатарскага рэжыму болей, чым відавочныя. Фюрэр, якім захапляецца Аляксандр Рыгоравіч, таксама быў не зусім здаровым на галаву. Яго хвароба дорага каштавала народам свету.

Чаму здараецца так, што атрымліваючы дазвол на права кіравання транспартным сродкам, у якім чатыры пасажыры, неабходнае заключэнне медыцынскай камісіі, у тым ліку псіхіятра, а для кіравання дзяржавай у 10, 80, 170 мільёнаў чалавек, гэтага не патрабуецца? Таму мы сёння маем тое, што маем, а заўтра і гэтага ўжо не будзе. Прырода не будзе цярпець пустэчаў.

Людзі літаральна «ўгрызаюцца» ў зямлю на сваіх маленечкіх надзелах-лецішчах, бо ведаюць, што толькі гэта іх можа выратаваць ад немінучага голаду. Дзяржаве і яе кіраўніцтву людзі таксама не вераць. Увосень улада да калгасных недародаў і гадавых справаздачаў дадасць яшчэ здабытае і вырашчанае людзьмі на сваіх прысядзібных надзелах, і застанецца задаволенай ростам вытворчасці сельгаспрадукцыі, што і назіралася ў 1998-1999 гадах.

Вось так і жывем: ад барацьбы за пасяўную да барацьбы за ўраджай; ад дыскрэдытацыі апазіцыі да знішчэння вядомых палітыкаў... Ад бітвы да бітвы. А дзе ж перамога?..

**Вячаслаў Шчыткавец, г.Бабруйск**

# Створаны Клуб Кансерватараў

Учора, 26 ліпеня, у Гродне быў створаны Клуб Маладых Кансерватараў. Клуб будзе мець характар элітарнага і аб'ядноўваць моладзь кансерватыўных поглядаў.

Асноўная ідэя Клубу - стварэнне адукаванай праслойкі маладых палітыкаў, што звязваюць будучыню Беларусі менавіта з ідэямі кансерватызму.

Як адзначыла ПАГОНІ кіраўніцтва Клубу Маладых Кансерватараў, «беларуская моладзь, якая вызнае кансерватызм, сёння змагаецца за незалежнасць на вуліцах і практычна не задумваецца пра сваю палітычную будучыню. Затое ёсць шмат падлюгаў, якія толькі і чакаюць, каб скарыстацца пладамі гэтага змагання. Змяніць становішча мы зможам, толькі калі выхаваем сваю палітычную эліту».

**Павал Мажэйка**

# «Круглы стол» пад дыктоўку Посахава

**Прадстаўнікі сямі апазіцыйных партыяў Беларусі, членаў Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, не ўзялі ўдзел у «круглым стале» на тэму: «Аб пазіцыі палітычных партыяў краіны па пытанню выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь», які прайшоў у Нацыянальным прэс-цэнтры ў Менску 25 ліпеня.**

У заяве прадстаўнікоў БНФ, АГП, БСДП (НГ), БСДГ, жаночай партыі «Надзея», Партыі працы, Беларускай партыі «зялёных» вітаецца ініцыятыва Нацыянальнага прэс-цэнтра па правядзенню «круглага стала». «Аднак, канстатуючы шматлікія выпадкі скажэння пазіцыі апазіцыйных партый дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі і тэндэнцыйнасць падачы інфармацыі, а таксама разгарнутую ўладамі кампанію па дыскрэдытацыі апазіцыйных палітычных партый і шэрагу грамадскіх арганізацый, мы не лічым мэтазгодным удзел у гэтым мерапрыемстве і прапаноўваем правесці такі «круглы стол» у прамым тэле- і радыёэфіры, што адказвае інтарэсам нашых грамадзян і садзейнічае ўстанаўленню клімату даверу ў краіне», - гаворыцца ў заяве.

Такім чынам, у «круглым стале» узялі ўдзел кіраўнікі або прадстаўнікі Партыі камуністаў Беларускай, Камуністычнай партыі Беларусі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, Аграрнай і Рэспубліканскай партый, Патрыятычнай партыі, Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі. Акрамя таго, у мерапрыемстве ўдзельнічаў памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў, прадстаўнікі Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Міністэрства юстыцыі і Дзяржкамдруку. Прадстаўнікі партый заявілі аб сваім удзеле ў выбарах, амаль аднадушна падтрымалі Закон аб выбарах, ухвалілі перадвыбарную атмасферу ў краіне, заклікалі да кансалідацыі ўсіх «здаровых» палітычных сіл і практычна аднадушна асудзілі партыі, якія не ўзялі ўдзел у «круглым стале». Адзін з удзельнікаў назваў такую пазіцыю «гультаяватай агрэсіяй».

Прадстаўнікі Мінюста, Дзяржкамдруку, Цэнтральнай камісіі па выбарах запэўнівалі прысутных у тым, што Закон аб выбарах дэмакратычны і адпавядае міжнародным патрабаванням, апазіцыя мае магчымасць доступу да сродкаў масавай інфармацыі, а партыі - роўныя ўмовы для ўдзелу ў перадвыбарнай кампаніі. Дысанансам прагучала толькі выступленне кіраўніка Партыі камуністаў Беларускай Сяргея Калякіна. Хаця ўзначальваемая ім партыя прыняла рашэнне аб удзеле ў выбарах, не вызначана яшчэ форма ўдзелу. Гэта можа быць не толькі вылучэнне кандыдатаў, але і байкот выбараў або накіраванне назіральнікаў у выбарчыя камісіі. Паводле слоў Калякіна, ПКБ у 96-ці са 110 выбарчых акруг краіны вылучыла сваіх назіральнікаў. Разам з тым лідэр беларускіх камуністаў адзначыў, што ўмовы, у якіх знаходзіцца беларускае грамадства, не садзейнічаюць правядзенню дэмакратычных, справядлівых, роўных, празрыстых выбараў. У грамадстве ўсталявалася атмасфера страху, вынішчаецца іншадумства, зрываюцца палітычныя мерапрыемствы апазіцыйных партый. Закон аб выбарах жорстка рэгламентуе правядзенне выбарчай кампаніі, абмяжоўваючы, у прыватнасці, выкарыстанне дадатковых сродкаў. Выдзяляемая на перадвыбарную кампанію сума дазваляе выдаць адзін выпуск улётак накладам 15 тысяч асобнікаў, тады як у адной акруге знаходзіцца ў сярэднім больш за 30 тысяч кватэр. Гэта значыць, што кандыдаты будуць скарыстоўваць «чорнае фінансаванне», а ўлады ў любы момант могуць убраць непажаданага кандыдата з перадвыбарнай кампаніі. Была адзначана таксама няроўная ўмова доступу апазіцыйных партый да сродкаў масавай інфармацыі, да тэле- і радыёэфіру і несупастаўны наклад дзяржаўных і незалежных газет. Калякін адхіліў і заклік да аб'яднання, паколькі ў партыі і правячага рэжыму, а таксама падтрымліваючых яго сіл, розныя падыходы да вырашэння праблем краіны.

Памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў фактычна вёў «круглы стол» палітычных партый. Ён устанавіў рэгламент, абарваўшы аднаго з прадстаўнікоў партый, які пажадаў выступіць яшчэ раз, спрабаваў перабіць журналіста Радыё «Свабода», што задаў вострае пытанне.

**Генадзь Барбарыч**

 

# Новы «акт» нянавісці да Беларусі



ДЗЯРЖАЎНЫ
АКТ
НА ПРАВА КАРЫСТАННЯ ЗЯМЛЁЙ

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ
АКТ
НА ПРАВО ПОЛЬЗОВАНИЯ ЗЕМЛЕЙ

Узор «акта» да 1991г.



ДЗЯРЖАЎНЫ
АКТ
на права пастаяннага ўладання (карыстання) зямлёй

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ
АКТ
на право постоянного владения (пользования) землей

Пераходны ўзор 1991-92 гг.



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

ДЗЯРЖАЎНЫ
АКТ
НА ПРАВА ПАСТАЯННАГА КАРЫСТАННЯ ЗЯМЛЁЙ

Гэты рабіўся «на вякі» 1992-2000 гг.



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ АКТ
НА ЗЕМЕЛЬНЫЙ УЧАСТОК

Новы «фаліянт» 2000-...

**Паважаныя чытачы! Сёння Вы можаце на свае ўласныя вочы ўбачыць, як выглядае беларусафобія ў выкананні існуючай улады.**

Калі ПАГОНЯ пісала, што Беларуссю кіруе расейскі клан, што кіруючыя пасады ў краіне займаюць так званыя «русскоязычные» з прозвішчамі на -ов, -ін, нас абвінавачвалі ва ўсім: у нацыяналізме, шавінізме, фашызме, у непавазе да вялікага брата. А ў гэты час замяталіны, латыпавы, ярмошыны ціха, але жорстка, не сустракаючы акрыўнага супраціву, і таму ўпэўнена працягваюць давіць усё беларускае.

На здымках Вы бачыце вывы тытульнага лісту аднаго дзяржаўнага дакументу Беларусі рознага часу (дзяржаўнага акта па правах карыстання зямлёй). Нам не столькі важны ягоны змест, колькі сутнасць. Дзеля большай яснасці мы размясцілі тытульныя лісты ў храналагічным парадку.

Савецкая ўлада, хоць і ішла па шляху стварэння адзінай нацыі «савецкі чалавек», аднак у дзяржаўных дакументах выкарыстоўвалася акрамя рускай, таксама мова карэннага насельніцтва рэспублікаў. Такі ўзор дакумента праіснаваў да 1991 года.

На самым пачатку існавання незалежнай Беларусі быў зроблены пераходны ўзор дакумента, падобны на стары, але з вывай нацыянальнага герба «Пагоня».

У 1992 годзе «на вякі» рабіўся ўжо прыстойны дакумент, на добрай паперы, па-беларуску, выдатна аздоблены, са ступенямі абароны. «Вякі» апынуліся 8-ю гадамі.

У сярэдзіне гэтага года з'явіўся новы «фаліянт». Выключна на рускай мове, нягледзячы на вынікі рэферэндума 1995 года, якія ўлады прыдумалі самі для сябе і які абавязвае іх складаць дакументы на дзвюх мовах: рускай і беларускай. Дарэчы, уводзячы новы « государственный акт», толькі ў адным Гродна было спалена 6 тон дакументаў узору 1995 года. Менавіта з-за герба «Пагоня» і бел-чырвона-белых стужачак. 6 тон паперы, да прыкладу, - гэта 135 000 асобнікаў газеты ПАГОНЯ.

Днямі ў Лідскім раёне ў поле не выйшлі камбайны - няма грошай на салярку. Можам застацца без хлеба.

А вось для спалення 6 тон дакументаў з-за «Пагоні», беларускай мовы і друкавання новых па-руску грошы знаходзяцца.

**Павал Мажэйка**

# Джым, Хатабыч і Бадзёры...

**Коні не дадуць гараджаніну забыцца на тое, што машыны, камп'ютары, газеты і тэлебачанне - гэта яшчэ не ўсё жыццё. І нават не жыццё зусім. А жыццё - гэта вільготны аксаміт вока, змена пейзажу ў рытме коннай рысі, радасць фізічнай стомы. Невядома як, але коні і людзі разумеюць адзін аднаго, размаўляючы на розных мовах. І спраўдзіць гэта вельмі лёгка - варта толькі раз наведаць конна-спартыўную школу, што месціцца перад лясным масівам проста за трыкатажнай фабрыкай «Вясёлка».**



**Кабылка Ізіда - улюбёнка Ганны.
У сакавіку Ізіда чакае жарабя - першанца конна-спартыўнай школы**

Школа працуе з вясны гэтага года. У прасторным будынку канюшні вальготна сябе пачувае 21 конь - з іх дзевяць належаць коннаму двару МУС. Вальготна, таму што кожная жывёліна мае сваю індывідуальную кватэру - дзяннік - а не катух у выглядзе стойла. Дзяннік - даволі прасторнае памяшканне з асобай кармушкай дзеля кожнага каня. Большасць коней завезена з калгасаў «Азёры» і «Прагрэс» яшчэ ўвосень. Да адкрыцця школы яны прывыкалі да новага дома і «заязджаліся» пад вершніка.

Сёння конна-спартыўная школа, гэта, найперш, штодзённыя заняткі конна-спартыўных групаў школьнікаў, якіх тут дзве - пачаткоўцы і аснoўная група. Акрамя язды на спартыўных конях, дзеці іх даглядаюць: мыюць, чысцяць, кормяць. У дзённы рацыён кожнай жывёліны ўваходзяць: зерне, сена, мінеральныя падкормкі, вітаміны і вада. У дзень майго гасцявання ў школе коням падвезлі дэлікатэс - воз кавуноў. Пад размову з Ганнай і Людмілай, супрацоўніцай школы, мы пазычылі ў іх пітомцаў файны кавунчык і ўселіся ў фаэтоне, які запрагаюць дзеля прагулак публікі па лесе.

## Коні, як добры наркотык: да іх альбо прывыкаеш, альбо не...

Ганна Паляшчук, трэнер-інструктар конна-спартыўнай школы (КСШ) і конюх, лічыць, што коні - як ракавая жарсць: калі ўжо ўзялася, то назаўсёды. Сама Ганна да таго, як стала працаваць у КСШ, шэсць гадоў трымала конную пракатную станцыю ў вёсцы Солы, што за гарадзенскім лесапаркам «Румлёва». І пачалося ўсё нібыта выпадкова: муж падараваў ёй трох прыгажуноў-коней. Да той пары Ганна была спартсменкай, уваходзіла ў зборную СССР па плаванню. Потым атрымала вышэйшую юрыдычную адукацыю і працавала юрыстам у салiднай фірме. Аднак любоў да коней перамагла, і дзяўчына кардынальна памяняла сваё жыццё, звязаўшы яго з коньмі:

- Да коней сапраўды немагчыма застацца абыякавым. Я за час сваёй працы з імі пабачыла шмат цудаў і таго, як коні ўплываюць на людзей. Адна жанчына, што пастаянна прыходзіць браць каня напракат, так палюбіла нашага Джыма (вараны спартовы конь-прыгажун), што ён для яе цяпер любімы мужчына, акрамя мужа канешне. Яна старанна сочыць за тым, каб Джым быў дагледжаны, чысты і накормлены. Проста пылінкі з яго здзьмухвае. І не дай Бог перацягнуць пры ёй Джыма дубцом - падыме скандал, пачне скардзіцца ў Грынпіс (жартуе).

Яшчэ цуд - як коні тонка разумеюць чалавека. Ёсць у нас сталая наведвальніца, жанчына 62 гадоў і вагой у 120 кілаграмаў. Не пабаялася ўзлезці на каня, кабылку Ізіду, і цяпер прыходзіць да нас кожны вольны дзень. Бярэ сваю любіміцу, сядлае і скача ў лес. Больш таго, я сама была сведкай іх размовы: жанчына гучна чытала свае вершы, а кабыла моўчкі слухала, ківаючы строга ў такт галавой.

Да размовы далучаецца Людміла, трэнер КСШ і ветурач:

- Трэба размаўляць з канём, і ён будзе табе адказваць. Нашыя коні слухаюцца каманд на словах - «Стой», «Наперад», «Направа», і не трэба шэнкеля ў бок даваць. У нас кожны конь - гэта асоба са сваім характарам. Тэра і Патрык - старыя пракатныя коні, навучаныя цярпець няўмелых седакоў, якія першы раз караскаюцца ў сядло. Антон - спакойны, але сімулюе, калі адчуе слабую руку, слухацца не захоча. Хатабыч наогул самы хітры, і мянушку сваю атрымаў за хітравата-мудры нораў. Яго роднае імя - Імбір, гэта конь, які ўмее ўсё, але можа прыкінуцца, што не разумее камандаў, і ленавацца ўвесь дзень.

Самыя перспектыўныя спартыўныя коні ў нас - гэта Дэйлон і Бадзёры (парода - гановеран лёгкага тыпу). З імі наша школа заняла трэцяе месца на абласным першынстве па канкуру (26-27 чэрвеня). Для школы першага года працы гэта добры вынік. Наступным летам думаем прыняць удзел у рэспубліканскіх спаборніцтвах. А 18-20 жніўня запрашаем на святочнае конна-спартовае спаборніцтва ў калгас «Прагрэс».

## Камандзірскі конь

У будынку конна-спартыўнай школы месціцца і конны ўзвод МУС. З 1992 года, калі была створаная конная міліцыя Гродна, узводам кіруе Мікалай Данешчык. Пад ягоным кіраўніцтвам - 25 чалавек і 9 коней. Кожны, хто адпачывае ў Пышках, асабліва ўлетку, рэгулярна бачыць на лясных сцежках грацыёзных (інакш не скажаш) маладых міліцыянтаў-вершнікаў. У міліцыі ёсць нават адзін белы конь, казачны прыгажун. А камандзірскі конь, на якім скача Мікалай Данешчык, гэта гняды Даклад (для тых, хто не разбіраецца ў масцях -карычневы), самы высокі конь. Наша конная міліцыя ахоўвае грамадскі парадак у Пышках і навакольных лецішчах. Спадар Данешчык, трэнер і камандзір адначасова, сцвярджае, што «конь здымае стрэс, а нашыя людзі сталі болей добрымі, лагоднымі і дысцыплінаванымі. У конную міліцыю не трэба накіроўваць - да нас людзі самі просяцца».

## Дзіана і два каўбоі

У конна-спартыўную школу можна прыходзіць у любы дзень - яна працуе без выхадных і перапынку на абед. Само сабой, не варта планаваць конныя шпацыры ў дождж альбо пасля яго. Аб занятках можна папярэдне дамовіцца з Ганнай Паляшчук па тэлефоне 6-93-54. Самае галоўнае для тых, хто падыходзіць да каня ўпершыню -пераадолець страх. Як, скажам, маладая кампанія (Рома, Сяргей і Дзіана), што зайшла сюды ў суботу. Дзіана ліха заскочыла на Тэру, праўда, доўга не магла ўгаварыць кабылку гуляць па манежы, а не стаяць ля кармушкі з сенам. Хлопцам нічога не засталося, як асядлаць Джыма з Хатабычам. Прыйшлося ахвяраваць моднымі штаны і мадэльныя чаравікі, каб выглядаць сапраўднымі вершнікамі.

Дарэчы, тым, хто надумаў наведаць школу, лепш адразу браць з сабой належную форму - старыя джынсы і высокія боты. Падчас заняткаў можна як ездзіць па манежы, так і адправіцца на конны шпацыр з трэнерам у Пышкі. Гэта - для смелых. Мне ж, з прычыны прыроднай баязлівасці, хапіла назірannяў за коньмі і дыслакацыяй спартовых перашкодаў у манежы.

**Алена Сіневіч**

# Студэнты ідуць у памежную зону

**З 1 па 21 жніўня Навукова-даследчая лабараторыя рэгіянальных праблемаў пры Гарадзенскім універсітэце выязджае ў экспедыцыю на даследаванне Сапоцкінскага рэгіёну. Удзел у экспедыцыі возьмуць каля 30 чалавек, пераважна студэнцтва - гісторыкі, філолагі, біёлагі, юрысты.**

Кіраўнічка выязной летняй школы, кандыдат гістарычных навук Святлана Сяльверстава адзначыла, што экспедыцыя адбываецца ў рамках праграмы «Мяжа». Праграма прадугледжвае вывучэнне прымежных рэгіёнаў, самой мяжы, прымежных вёскаў. Маральную падтрымку ў рэалізацыі экспедыцыі аказваюць Камітэт памежных войскаў, Камітэт аховы прыродных рэсурсаў, Еўрарэгіён «Нёман».

Сапоцкінскі рэгіён - памежная зона, і, каб патрапіць сюды, трэба мець адпаведны дазвол. Менавіта гэта накладвае значны адбітак на ягонае развіццё. Як лічыць Святлана Сяльверстава, практычная адсутнасць міграцыі насельніцтва ў гэтым краі сталася прычынай закансерваванасці культурных і моўных працэсаў рэгіёна. Таму і ўзнікла ідэя комплекснай экспедыцыі.

Маштаб задуманага ўражвае. Сацыялагічныя апытанні, вывучэнне тапанімікі, апісанне і картаграфаванне помнікаў. Па выніках экспедыцыі будзе складзены слоўнік гаворак Сапоцкінскага рэгіёну. Плануецца таксама распрацаваць метадалогію вывучэння мікрарэгіёну на ўзроўні сельсавета.

Паводле словаў Святланы Сяльверставай, калі эксперымент з летняй школай-экспедыцыяй атрымаецца, цалкам магчыма стварэнне ў рэгіёне універсітэцкай базы «навуковага адпачынку».

**Павал Мажэйка**

# Сілікатны жах над горадам

Жыхары вуліцаў Багуцкага, Дамброўскага, вёскі Грандзічы добра ведаюць, чаму на лістах дрэваў каля іхніх дамоў штодня асядае белы пыл. Гэта - выкіды вытворчасці сілікатных вырабаў на гарадзенскім камбінаце будаўнічых матэрыялаў. Але КБМ мае адпаведныя паветраныя фільтры. Чаму ж на аўтамабілях з мясцовых аўтастаянак можна пісаць пальцам па тоўстым слоі белага пылу?

Адказ да банальнага просты. Дастаткова паглядзець на трубы КБМ уначы. Цяжкі белы дым нават не ўздымаецца ў паветра, а шчыльнымі хмарамі валіцца на бліжэйшыя дамы. Сілікатныя выкіды ляцяць літаральна на галовы заснулых гарадзенцаў. Паветраныя фільтры адключаныя.

Спыніць гэтае пачварнае атручванне проста. Дастаткова правесці адну начную праверку. Хто гэтым зоймецца?

**Сяргей Самасей**

# Пятля перакрыжаванага субсідавання на шыі эканомікі

**Сёння беларускае насельніцтва аплочвае толькі 15 працэнтаў рэальнага кошту электраэнергіі ды не болей 5-6 працэнтаў кошту цяпла. Хто ж разлічваецца за астатнія кілаваты і калорыі? Прамысловыя і прыраўнаваныя да іх прадпрыемствы. Гэта значыць, тых вытворцаў, якія яшчэ здольныя што-небудзь вырабляць, прымушаюць аплочваць не толькі свае выдаткі за энергію, але пакрываць страты іншых. Існуе нават адпаведны тэрмін, каб акрэсліць такую з'яву: перакрыжаванае субсідаванне. Галаўны боль усёй беларускай энергетыкі. Боль, які кіраўніцтва краіны не жадае ні заўважаць, ні лячыць.**

Увогуле, ва ўсіх краінах з нармальнай эканомікай насельніцтву заўсёды вызначаюць самы высокі тарыф на электрычнасць, а таксама газ і цяпло. У Германіі, напрыклад, бытавое ўжыванне каштуе прыкладна ў 1,7 раза даражэй, чым прамысловае, у Амерыцы - у два разы. Такія суадносіны вызначаюцца тым, што элекраэнергія, калі даходзіць да спажыўца, праходзіць самую вялікую колькасць трансфармацыяў, гэта значыць, рэальна становіцца даражэйшай. Цікава, што нават у нярынкавай савецкай эканоміцы панавала тая ж логіка. Насельніцтва плаціла па 4 капейкі за 1 квт/гадз. за спажытую электрычнасць, а прамысловыя прадпрыемствы - ад 2,5 да 3 капеек. Сабекошт яе ў той час складаў каля 2 капеек за 1 квт/гадз.

Адзіны Савецкі Саюз са сваёй адзінай энергасістэмай разваліўся. Самастойныя дзяржавы, якія потым утварыліся, сталі вырашаць свае энергапраблемы па-рознаму. Інфляцыі і спаду вытворчасці не пазбегла ніводная з іх. Электрычнасць, цяпло (як усе іншыя камунальныя паслугі) сталі рэзка даражэць. Рост тарыфаў значна апераджаў рост заробку насельніцтва. Але, у адрозненне ад Беларусі, у прыбалтыйскіх краінах эканамісты не пакутавалі ад фальшывага жалю да бытавых спажыўцоў. Яны справядліва вырашылі, што энергетычная галіна мае такое ж права на рэальную аплату сваіх паслугаў, як і ўсякая іншая. Так, высокія цэны на электрычнасць, цяпло, газ для многіх (асабліва, аматараў прыгадваць савецкія часіны) з'яўляюцца нязвыклымі па сённяшні час. Аднак сама сітуацыя ўтрымалася на нагах, не перавярнулася на галаву, як гэта адбылося ў нас.

Распрацаванае ў Беларусі ў 1993 годзе «Палажэнне аб дзяржаўным рэгуляванні тарыфаў» дазволіла стрымліваць цэны для насельніцтва. Але для таго, каб падтрымліваць хаця б мінімальны ўзровень рэнтабельнасці галіны, пераклалі ўвесь цяжар разлікаў за спажываемую энергію на прамысловыя прадпрыемствы. «Пашкадаваўшы» такім чынам насельніцтва, разумныя галовы ў Савеце міністраў, мабыць, забылі, што на прадпрыемствах працуюць тыя ж самыя людзі. Свае каласальныя выдаткі на энергію вытворцы ўсё роўна закладваюць у сабекошт сваёй прадукцыі, ад чаго цана на яе становіцца неканкурэнтнай. Заразужо і на расейскім рынку. А далей кола замыкаецца: тавары не знаходзяць збыту, працаўнікі (гэта значыць насельніцтва) не артымліваюць заробкаў, а прадпрыемства не можа расплаціцца за спажытую электраэнергію (цяпло, газ) і трапляе ў лік даўжнікоў. Схема можа быць некалькі іншай, аднак крывая тая ж - кола.

Зрэшты, некаторым прадпрыемствам з яго вырвацца ўсё-ткі ўдаецца. Тым, якія ў стане пабудаваць уласныя кацельныя. Так паступіў, напрыклад, Гарадзенскі мясакамбінат, ВА «Радыёхваля» ды іншыя прадпрыемствы. Рух гэты набірае абароты, хаця наўрад ці яго будуць вітаць эколагі: каму патрэбныя дадатковыя трубы, якія дымяць, у горадзе?.. Аднак значна большы непакой гэтая хваля «сепаратызму» дастаўляе самому Гродназнерга. Ад яго ўходзяць рэальныя плацельшчыкі. І калі так пойдзе і надалей, то плаціць за іх прадукцыю - электра- ды цэплаэнергію будзе ўвогуле няма каму.

Як сцвярджаюць спецыялісты Гродназнерга, у рэйтынгу галоўнай пяцёркі іх даўжнікоў першае месца даўно і цвёрда ўтрымлівае сельская гаспадарка. Яе спажыўцы практычна зусім не разлічваюцца за энергарэсурсы. Да канца мінулага года ў іх накапілася 5,6 мільярда пазыкаў, якія вядомай Пастановай Саўміну нумар 185 адтэрмінаваны да ліcтапада, праўда, пры ўмове, што калгасы і саўгасы будуць рэгулярна пагашаць бягучую запазычанасць. Але апошнія плявацъ хацелі на ўсе ўмовы. Іх агульную пазычанасць на сёння складае па Гарадзенскай вобласці больш за 9 мільярдаў рублёў. І чакаць яе скарачэння - утопія.

На другім месцы па пазыкам - ГВА ЖКГ, гэта значыць мы з вамі -бытавыя спажыўцы. Нягледзячы на фантастычна нізкія цэны за энергію, мы здолелі запазычыць у Гродназнерга 1,7 мільярда рублёў. Больш за 1 мільярд рублёў недаплацілі бюджэтныя арганізацыі. Нарэшце ў «чорны спіс» трапіла і самае буйное прадпрыемства Гарадзеншчыны ВА «Азот», яго запазычанасць - 1,4 мільярда рублёў. Агульная сума запазычанасці па вобласці складае 16,5 мільярда рублёў.

Хопіць пакуль пра сельскую гаспадарку. Гэты разбэшчаны датацыямі ўтрыманец беларускай эканомікі варты асобнай гаворкі. Ці можна хаця б пазбегнуць перакрыжаванага субсідавання, і тым вызваліць прадпрыемствы ад непад'ёмных плацяжоў, даць ім магчымасць вярнуць вызваленыя грошы ў ход, прыпыніць разбураемую адзіную энергагаспадарку? Мы ж бачым, што прорва паміж рэальным коштам энергіі для насельніцтва і ўсталяванай дзяржавай цаной неверагодна глыбокая. Да таго ж любое павышэнне тарыфаў выклікае рэзкую крытыку з усіх бакоў, асабліва прафсаюзаў, якія пільна сочаць за пагаршэннем становішча працоўнага люду.

Між тым, паэтапнае павышэнне тарыфаў - не такая ўжо смяртэльная з'ява. Давайце сумленна паглядзім на лічбы. Сёння сям'я з трох чалавек, якая жыве ў двухпакаёвай кватэры і не вельмі абмяжоўвае сябе ў выкарыстанні электрапрыбораў, плаціць за святло каля 1,5 тысячы рублёў. Столькі ж каштуе літровы пакет яблычнага соку ці кілаграм танных сасісак. Сёння мы кампенсуем вытворцу электрычнасці не болей за 20 працэнтаў яго выдаткаў. Атрымоўваецца, што, каб выплаціць усе 100, трэба павялічыць тарыф у пяць разоў. Умоўная сям'я, узятая намі ў якасці прыкладу, выплаціць у месяц не 1,5, а 7,5 тысячы рублёў. Гэта не катастрофа. Тым болей, што ніхто не прапануе падняць цану вельмі значна і ў адзін дзень. Спецыялісты Гродназнерга лічаць, што рэальна выраўняць становішча можна гады за два. А цягнуць з ліквідацыяй перакрыжаванага субсідавання тое самае, што і зацягваць пятлю на сваёй шыі. Некалькі даражэй насельніцтву абыходзіцца цеплавая энергія. У гэтым выпадку энергетыкі прапануюць згладзіць рэзкае павышэнне, расцягнуўшы яго на год, а не толькі на атапляльны сезон.

Магчыма, заклік да памяркоўнага прыняцця павышэння цэнаў за энергію для насельніцтва, асабліва зараз, калі ў большасці ў кішэні не вельмі густа, многім можа падацца амаральным. Аднак ці не амаральна жыць за кошт іншых? Хай ускосна, аднак удзельнічаць у развале эканомікі? І ці можна патрабаваць якасны прадукт, не расплочваючыся за якасць адэкватна?

Нам нікуды не дзецца ад усведамлення таго, што кожны тавар каштуе столькі, колькі ён каштуе. Разумеюць гэта і «там, наверсе», тым больш, што з Белэнерга неаднойчы «стукаліся» туды з гэтай праблемай. Разумеюць, аднак не жадаюць мяняць сітуацыю. Няма чаго траўмаваць электарат высокімі цэнамі напярэдадні выбараў. Потым будзе бачна. І чым далей нашыя кіраўнікі будуць адцягваць працэс перадолення тарыфных перакосаў у аплаце за энергію, тым больш балюча ён будзе праходзіць для таго ж насельніцтва, якое, быццам бы, нехта вельмі моцна шкадуе.

**Ніна Палуцкая**

**P.S. *Заклікі афіцыёзных «эканамістаў» і псеўдастрадальцаў «за народ» аставіць усё, як ёсць таму, што нават мінімальнае павелічэнне тарыфу для бытавых спажыўцоў будзе не пад сілу - гэта блеф. Праблема не ў велічыні тарыфаў, а ў мізэрнасці нашых заробкаў. Тое, што сучасныя бальшавікі ад эканомікі не могуць дазволіць існавання ў сваёй краіне багатых людзей - гэта ўжо зусім іншая гісторыя.***

# Танцы на Дзень пажарнага

**У нядзелю на плошчы Тызенгаўза гарадзенцы і хлопцы з гарадзенскіх падраздзяленняў МЧС святкавалі Дзень пажарнай службы.**

Святочная праграма доўжылася ўвесь дзень - з 11 раніцы да самага вечару. Усё пачалося са святочнага перасоўвання калоны пажарнай тэхнікі па горадзе - ад універсама «Брэст» праз БЛК, вуліцу Горкага да цэнтра горада. На плошчы Тызенгаўза пажарныя дэманстравалі спосабы тушэння пажару вадой і сучаснымі хімічнымі рэчывамі. Дзеці і дарослыя спрабавалі качаць ваду старадаўнім ручным насосам. На «ўра» прайшоў паказ працы дальнабойнага пажарнага рукаву з вышыні сотнага крана: пад «пажарны» дождж збегліся ўсе дзеці, і нават малыя неслухі самі пажарных.

Бліжэй да гадзіны дня свята перамясцілася ў парк Жылібера. Тут прайшоў канцэрт мастацкай самадзейнасці з удзелам салістаў фальклорнага ансамбля «Гарадніца» Алеся і Соф'і Лойкаў. А віктарына для дзяцей «Стоп, агонь» прынесла малым зусім нечаканую радасць: пераможцы атрымалі ад гарпарку 10 бясплатных квіткоў на атракцыёны.

Завяршаўся Дзень пажарнага запальнымі танцамі на моладзевай дыскатэцы.

Паводле словаў супрацоўніка прэс-службы ўпраўлення МЧС Анатоля Бахарэвіча, у святочны дзень гарадзенскім пажарным спрыяла надвор'е і сам Бог: за ўвесь дзень не здарылася ніводнай сур'ёзнай аварыі ці пажару.

**Алена Сіневіч**

# Ізноў вінаватыя «мороз и солнце»




**На сённяшні дзень зерне на палях вобласці ўжо паспела, але ўбраць яго амаль што няма чым. У гаспадарках вобласці ёсць толькі 9 працэнтаў паліва на ўсё жніво, на базах запасу няма.**

На прэс-канферэнцыі ў абласным аграпрамысловым камітэце старшыня камітэту па сельскай гаспадарцы і харчаванню аблвыканкама Мечыслаў Касцюк прызнаў, што «такога становішча з палівам, як сёлета, яшчэ не было». Патрэбна 36 тысяч тон саляркі і 17 тысяч тон бензіну, у наяўнасці ж толькі 3 тысячы і 1,3 тысячы тон адпаведна. Паводле словаў гендырэктара ГВА « Аграмашсэрвіс» Міхаіла Занозы, «калгасы дайшлі да таго, што не могуць аплаціць паліва нават па фіксаваных коштах, што на палову ніжэй камерцыйных».

Нягледзячы на гэта, Шчучынскі, Слонімскі, Свіслацкі, Бераставіцкі, Гарадзенскі раёны ўжо пачалі ўборку хлеба. Сярэдняя ўраджайнасць зерневых у Гарадзенскім раёне - 40 цэнтнераў з гектара, рапсу - 30. Кіраўнікі нашай сельскай гаспадаркі лічаць, што ўраджай павінен быць разы ў паўтара вышэйшым, чым у мінулым годзе. Праўда, на фоне неспрыяльных умоваў надвор'я гэтым сцвярджэнням цяжка паверыць.

Падчас веснавых і чэрвеньскіх замаразкаў вымерзла 70 тысяч гектараў пасеваў. Пересеяна было толькі 52 тысячы гектараў. Асабліва пашкоджаныя былі грэчка, кукуруза, бульба. Спадар Касцюк шчыра прызнаў, што «апошнія два гады з нашым надвор'ем нешта не так... Паспрабуй тут падладзіся пад капрызы надвор'я». Наогул, прэс-канферэнцыя па стану ў аграпрамысловым комплексе вобласці прайшла ў даверлівай размове з журналістамі. Слугі народа не ўтойвалі сваёй разгубленасці і поўнай залежнасці ад Менска: падкіне цэнтр паліва і грошай на жніво ці не, дасць крэдыты ці не дасць. Абяцаць абяцае, але як яно павернецца -невядома. А зерне між тым слухаць камандаў не жадае - лёгка можа счарнець і згніць тое, што вырасла на злосць калгасам і надвор'ю.

У планах парыхтоўчых прадпрыемстваў вобласці - закупіць 260 тысяч тон зерня. Аднак закуплена пакуль што толькі 620 тон. Галоўны дзяржінспектар па закупу і якасці прадукцыі аблсельгаспрода Іосіф Шкубель прызнаў, што нарыхтоўка зерня ідзе цяжка. Нягледзячы на тое, што закупачныя цэны ў параўнанні са студзеньскімі 2000 года правышаны ўдвая. Хаця па вялікаму рахунку ўсе разлікі паміж дзяржавай і калгасамі даўно перайшлі ў разрад чыста сімвалічных. Усё ўсім павінны, але аддаваць даўгі ніхто не збіраецца.

Так, абласны гандаль вінаваты толькі за мяса, сыр, малако паўтара мільярды рублёў. А калгасы, са свайго боку, 30 мільярдаў (ці па сто мільёнаў з кожнага калгаса) за паліва і крэдыты. Толькі па заробку калгаснікам доўг складае 1 мільярд 705 мільёнаў рублёў. У многіх, так бы мовіць гаспадарках, працаўнікі вёскі не бачылі кроўна заробленых рублёў з красавіка. А калі ўсё ж такі пашчасціць восенню ўбраць і прадаць дзяржаве ўраджай, то выручаных грошай у лепшым выпадку хопіць толькі, каб «разлічыцца з даўгамі, калгаснікам жа нічога не дастанецца», - прызнае спадар Касцюк.

На нядаўнім пазачарговым паседжанні аблвыканкама, на якім разглядалася становішча ў сельскай гаспадарцы, кіраўнікі вобласці ўголас прызналі, што аграпрамысловы комплекс - у крытычным стане. Змяншаецца палаловае жывёлы (кароваў, свіней), закуп малака і мяса знізіўся ў параўнанні з мінулагоднім на 12 працэнтаў. У Навагрудскім раёне, напрыклад, па агульнай колькасці кароваў гаспадаркі «скаціліся» на пазіцыі 1971 года, па надою малака на карову - на ўзровень 1970 года. Але нават пры змяншэнні статку невядома, ці будзе чым карміць жывёлін зімой. У гэтую зіму з'елі не тое, што ўсё назапашанае сена, але і салому ўсю падмялі. А сёлета першага ўкосу траваў лічы што не было, з другога, на 17 ліпеня, скошана 14 працэнтаў траваў. Назапашана на 120 тысяч тон кармавых адзінак менш за ўзровень мінулага года. Адно вядома дакладна: ніякай дзяржаўнай праграмы па рэфармаванню калгаснай сістэмы няма, і калгасы і надалей будуць «даходзіць».

А на 24 ліпеня ў вобласці скошана 32,8 тысячы гектараў зерневых і зернебабовых, што складае дзевяць працэнтаў ад агульнай уборачнай плошчы. Сярэдняя ўраджайнасць па вобласці - 33,8 працэнтаў, у Гарадзенскім раёне - 44 цэнтнеры. Намалочана 109 тысяч тон зерня. Завяршаецца ўборка азімага рапсу з сярэдняй ураджайнасцю 20 цэнтнераў з гектара.

**Алена Сіневіч**

# Рэпам па наркотыках

У нядзелю, 30 ліпеня, гарадзенская арганізацыя «Грамадзянскага Форуму» ладзіць у парку Жылібера рэп-хіп-хоп канцэрт.

Імпрэза пачнецца а 16 гадзіне і пройдзе пад лозунгам «Моладзь супраць наркотыкаў».

У праграме канцэрту - выступы дзесятка гуртоў з Гародні, Брэста, Бярозы.

**Іван Паўлёнак**

